Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 32 (86) Аўторак, 1-га Верасьня 1925 г. м. Вільня. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць адзін раз у тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 80 гр.
" " 3 " 2 зл. 40 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka, 1 „Hotel Sokołowskiego” pokój № 26. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 20 гр., у тэксьце — 15 гр., на апош. стар. — 10 гр.



## Дзіўныя адносіны.

На шпальтах нашае газэты мы ня раз ужо зварачвалі увагу польскага грамадзянства на яго ненармальныя і зусім незразумелыя адносіны да беларускага кірунку.

Мы ужо пісалі аб тым, што ў той мамэнт, калі ультра-радыкальны і анты-дзяржаўны кірунак у беларускім руху ўсё больш узмацняецца і пашырае свае ўплывы, у гэты самы час беларускі полёнафільскі кірунак сыстэматычна паменшаецца і слабее.

Зьявішча — грознае, калі прыняць пад увагу, што Польшча мае ў сваіх мяжох каля 4 мільёнаў беларусоў, а пад бокам — спрытнага і падступнага суседа — Радавую Беларусь.

Нажаль, праблема адносінаў польскага грамадзянства да беларускага руху, як і наагул „санацыя“ крэсаў, яшчэ і да гэтага часу застаецца тым Гордзіявым вузлом, які яшчэ не дачакаўся свайго Аляксандра Македонскага.

Мы заўсёды зазначалі, што толькі польская *дэмократыя* можа даць гэтага Аляксандра Македонскага, але яна яшчэ да гэтага часу застаецца тэй бязплоднай смакоўніцай, якая ўпарта ня хоча арадзіць гэтага Аляксандра. І ў той мамэнт, як варожыя сілы ня сьпяць, гуртуюцца і сыстэматычна вядуць сваю падрыўную работу, польская дэмократыя застаецца інэртнай і толькі ад часу да часу крыху адзываецца на шпальтах сваіх газэт, спаўняючы, гэтак сказаць, ex officio свой „дэмократычны абавязак.

У той час, як беларускі апазіцыйны кірунак зусім рэальна падыходзіць да паважнае працы, наш—полёнафільскі—працуе ў нязвычайна цяжкіх варунках.

Дзеля дасягненьня нашых ідэялаў мы выбралі шлях легальны, эвалюцыйны, наагул мы выбралі тыя спосабы, якія дапусьцімы ў парлямантарнай Заходняй Дзяржаве. Зусім зразумела, што зьдзейсьненьне гэтых нашых ідэялаў у значнай меры залежыць ад большасьці грамадзянства Дзяржавы, г. зн. ад грамадзянства польскага. Інакш кажучы, сур‘ёзная і карысная наша праца магчыма толькі пры паразуменьні беларускага і польскага грамадзянства і пры добрай волі апошняга.

Есьць яшчэ другі шлях дасягненьня беларускіх нацыянальных і палітычных ідэялаў, шлях рэвалюцыйны, якім і йдзе Беларускі Пасольскі Клюб. І трэба зазначыць, што на шлях гэты беларусаў пхаюць ня толькі закардонныя „таварышы“ і розныя безадказныя дэмагогі, але таксама і інэртнасьць ды няшчырасьць да нас польскае дэмократыі, і тупое незразуменьне ёю законных жаданьняў і неабходных патрэбаў беларускага народу.

Скандальны „беларускі“ зьезд у Баранавічах, карэспандэнцыю аб якім мы сягоньня друкуем, зьяўляецца найлепшым доказам гэтага незразуменьня.

Падтрыманьне пэўнаю палітычнаю групай польскага грамадзянства гэтакіх авантурыстычных прадпрыемстваў розных цёмных адзінак, якія выступаюць пад маркай беларускай полёнафільскай арганізацыі дыскрэдытуе ў вачох нашага народу самую ідэю беларуска-польскага паразуменьня. Гэтыя факты толькі ліюць ваду на млын апазіцыйнага напрамку. Розныя п. п. Рагулі і іншыя дэмагогі досіць спрытна карыстаюцца з іх дзеля пашырэньня і паглыбленьня сваіх, і так даволі вялікіх, уплываў паміж абаламучанага беларускага сялянства.

І вось, у сучасны мамэнт, калі беларускі полёнафільскі кірунак перажывае вельмі цяжкі час, дзеецца нешта зусім недарэчнае.

На адзіную паважную і праўдзіва-беларускую арганізацыю — Часовую Беларускую Раду—пачынае рабіць нападкі як правая, так і левая польская прэса,

Калі нас лаялі на шпальтах сваей комунізуючай прэсы ультра-радыкальныя беларускія групы, дык мы лічылі гэты факт зусім нармальным, але, калі на нас пачынаюць таксама нападаць і польскія газэты, дык гэтага ніяк ня можна зразумець.

Правыя польскія газэты нападаюць на нас за тое, што мы занадта беларусы, затое, што мы занадта дбаем аб інтарэсах і балячках нашага сярмяжнага беларускага народу; левая прэса таксама гасьцінна аддае свае шпальты для артыкулаў, якія маюць характар пэрсанальных выпадаў проці паасобных сяброў нашае арганізацыі „Kur. Wil.“. № 185.

Усё гэта адбівае усялякую ахвоту да працы і ў тых нялічных беларусаў, якія, ня гледзячы на гэткія адносіны да сябе з боку польскага грамадзянства і на агульна-цяжкія абставіны, да гэтага часу не злажылі яшчэ свайго аружжа і далей шчыра працуюць у кірунку паразуменьня й згоды паміж двух братніх народаў.

Усё гэта паглыбляе тую прорву паміж беларускім і польскім народамі, якую сцьвярджае й сама польская прэса.

Час нарэшце зразумець, што гэткія ненармальныя і варожыя адносіны паміж польскай Дзяржавай і 4-х мільённым беларускім народам зьяўляюцца грознаю небясьпекай для гэтае Дзяржавы!

Час зразумець, што гэткі стан рэчаў далей трываць ня можа, бо да нашых адносінаў вельмі ўважна прыглядаецца наш хітры і моцны Чырвоны Сусед, які толькі й чакае на адпаведную хвілю, каб выкарыстаць яе дзеля пашырэньня сваей бандыцкай ўлады на рэшту Беларусі.

Пара, нарэшце, польскай дэмократыі зразумець усё гэта і адумацца, пакуль ёсьць яшчэ час!

*Той, хто умее чытаць, ніколі не палянуйся прачытаць няпісьменнаму!*

*Газэту прачытай і перадай суседу!*

## Палітычны агляд.

Агульнае палітычнае і эканамічнае палажэньне Эўропы з кожным днём псуецца. На першым пляне — эканамічныя труднасьці. Усю Заходнюю Эўропу заліла хваля забастовак і «лёкаўтаў». У Англіі палажэньне зусім не папраўілася пасьля ўступкі, якая была зроблена горнарабочым. Усе рабочыя прынялі геты крок ураду як праяву слабасьці буржуазіі і гэта ўдача заахвоціла іх да новых дамаганьняў. Назначаны конгрэс рабочых партыяў, на якім будуць разьбірацца гэткія пытаньні: павялічэньне заработнай платы ўсіх рабочых, даўжыня работы ў тыдзень ня болей за 46 гадз., а ў горнай прамысловасьці 36 гадз., нацыяналізацыя чугунак, копяў, банкаў, гандлёвыя зносіны з С. С. Р. Р. і зьмена Вэрсальскага трактата. Напэўна гэтыя пытаньні будуць прыняты конгрэсам. Як урад і капіталісты будуць рэагаваць на гэта, цяпер прадбачыць трудна, тым болей, што палажэньне на Д. Усходзе надта завастрылася. С. С. Р. Р. адзначыўшы сабе слабае мейсца Англіі ў Кітаі, увесь час б‘е ў гэтым напрамку. Работа бальшавікоў у Кітаі аблягчаецца тым, што няма згоды між вялікімі дзяржавамі, якія конкуруюць на Д. Усходзе. Цяпер кантонскі ўрад, выдаў загад, які забараняе ангельскім караблям уваход у кітайскія порты. Гэты загад зьяўляецца ўжо адкрытым вызавам Англіі з боку Кітая. Ангельскія гандлёва-прамысловыя сфэры дамагаюцца ад ураду самых рашучых крокаў, але трудна думаць, каб Англія рашылася на аружнае выступленьне ў Кітаі.

Палажэньне Францыі крыху палепшала. Пасьля таго як Абдэль-Крым ня згодзіўся на мірныя перагаворы з Францыяй і Гішпаніяй, пачаліся энэргічныя наступленьні францускага войска, якія ідуць удачна. Маса артылерыі, аэрапляпаў і інш. тэхнічных прыладаў вайны даюць перавагу францускай арміі, якая памалу пасоўваецца наперад. У Сырыі таксама ўспакоена паўстаньне Друзаў, дзякуючы падтрыманьню Ангельцаў. Але Друзы яшчэ зусім не разьбіты і Французы пачалі мірныя перагаворы з павадырамі паўстаўшых плямёнаў. Згодна з весткамі нямецкіх газэт, якім нельга надта верыць, Друзы, таксама як і Рыфэны ў Марокко, дамагаюцца ад

французаў поўнай незалежнасьці, а калі не, дык пагражаюць новым паўстаньнем усей Сырыі. Зусім магчыма, што хутка, як у Сырыі, так і ў Марокко, Францыя зробіць парадак, але ці надоўга — няма ведама. Як-ні-як гэты трудны мамэнт выкарыстаюць дзеля сваіх мэтаў камуністы, а таксама й Нямеччына. Унутранае палітычнае палажэньне Францыі надта крытычнае і дзеля фінансавых труднасьцяў. Урад радыкалаў Пэнлевэ апынуўся ў надта трудным палажэньні дзякуючы таму, што сацыялісты, састаўляўшыя дагэтуль урадовую большасьць, аканчальна адмовіліся яго падтрымоўваць. Нядаўна адбыўся конгрэс сацыялістычнае партыі, на якім вынесена большасьцю галасоў рэзалюцыя проці падтрыманьня ўраду і дамагаўшаяся незалежнасьці для Рыфэнаў. Гэткім чынам лёс левага ўраду Пэнлевэ залежыць ад правага нацыянальнага блёку. З паасобных фактаў трэба адзначыць забастоўку банковых чыноўнікаў, якая трывае ўжо колькі тыдняў, і ноту, высланую Нямеччыне ў справе пакту басьпекі.

У надта нявыразным палажэньні апынулася Нямеччына. Ува ўсім краі адчуваецца сільны эканамічны крызіс. У зьвязку з конфліктам з Польшчай Нямеччына выдала новы закон, які забараняе ўвоз у Нямеччыну хлеба, жывёлы, мяса, цукру ды інш. прадуктаў, — дзеля гэтага пачала расьці дарагоўля. Рабочыя розных галінаў прамысловасьці дамагаюцца павышэньня платы і зрабілі забастоўку. Забаставала каля сотні тысячаў рабочых, асабліва ў будаўлянай прамысловасьці ў Саксоніі. Але нямецкія прамыслоўцы зусім інакш адносяцца да рабочых, чымсь ангельскія. Калі рабочыя не згаджаюцца на іхнія варункі, дык яны звальняюць іх са службы. Звольнена ўжо 200.000 рабочых тэкстыльнай прамысловасьці ў Турынгіі і Саксоніі і яшчэ пагражаюць «лёкаўтам» 400.000 рабочым у будаўлянай прамысловасьці. Найбольшай неўспадзёўкай зьяўляецца крах Стіннэса. З прычыны недахвату грошай, якіх не ўдалося атрымаць ані ад ураду, ані ў Амэрыцы, Стіннэс прадае памалу свае аграмадныя прадпрыемствы, у якіх служыла і працавала больш за $1^1/_2$ міліёна душ.

Эканамічны крызіс не абмінуў нават і Чэха-Славацыі, дзе таксама абʼяўлены «лёкаўт» 200.000 рабочым тэкстыльнай прамысловасьці. Але найболей адчуваецца эканамічны крызіс у нас з прычыны таможаннай вайны з Нямеччынай. Забастоўка мэталістаў варшаўскага прамысловага раёну і на Горным Шлёнску яшчэ больш псуе эканамічнае палажэньне. Крызіс павялічваецца дзякуючы недахвату грошай і труднасьці крэдытаў. Прыватныя банкі бяруць за крэдыт па 72% ў год, тады як у Амэрыцы напр. учотны працэнт ня большы за 3 у год. Дзеля гэтага шмат фабрык зачынілася, або перамясьцілася за граніцу, галоўным чынам у Румынію. Гандлёвыя прадпрыемствы банкрутуюць

*N.*

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

## У Польшчы.

31 гэтага жніўня пачаліся ў Копэнгагене безпасрэдныя перагаворы паміж палякамі і літоўцамі. Будуць абгаварывацца эканамічныя пытаньні і справа Клайпэды. Кіраўніком польскай дэлегацыі назначаны Л. Васілеўскі.

Гэтымі днямі падпісаны гандлёвы дагавор паміж польскім і савецкім урадамі. На падставе гэтага дагавору арганізована Т-ва „Сов-полторг", якое атрымала дазвол на вываз тавараў у Расею.

Міністр загранічных справаў п. Скшынскі 1-га верасьня выезджае у Жэневу на чарговую сэсію Лігі Народаў.

Як паведамляе „Słowo", Прэзыдэнт Рэспублікі падпісаў дэкрэт аб назначэньні п. Долежаля віцэ-міністрам гандлю і прамысловасьці.

Выдана новае распараджэньне Польскага Банку аб каціроўцы даляраў. Згодна з гэтым распараджэньнем, пастаноўлена дазволіць купляньне і прадажу даляраў па вольнай цане, адпавядаючай загранічнаму курсу. Апошнімі днямі Польскі Банк плаціў за даляры па 5 зл. 60 гр.

У Наваградзкім Акружным Судзе 23 г. м. пачаўся разгляд справы старшага пшодоўніка Мурашкі, якога абвінавачваюць у забойстве Вечаркевіча і Багінскага. Па просьбе абароны, суд пастанавіў справу адлажыць дзеля вызава новых сьведкаў.

## За граніцай.

= Як паведамляюць з Каіра, паўстаньне у Сірыі з кожным днём пашыраецца. Друзы захапілі Хірбэт-Эль-Газалі каля Дамаску і прасьледуюць далей разбітае францускае войска. Па апошнім весткам з Парыжа Друзы занялі Дамаск. Французы панясьлі вялікія страты.

= У Вене, ў працягу апошняга тыдня, адбываецца кангрэс сыяністаў. Паміж іншым, кангрэс вынёс пастанову аб выборах жыдоўскага міжнароднага парлямэнту. Парлямэнт гэты будзе складацца з 150 дэпутатаў, з якіх палова павінна быць сыяністаў.

= Рыжскія газэты падаюць сэнсацыйную вестку аб тым, што вядомы камуніст Яраслаўскі, які у апошні час займаў высокую пасаду пры савецкім пасольстве у Вене, зьбег, захапіўшы надта важныя дакумэнты і вялікую суму грошай.

= З **Пэкіну** паведамляюць аб тым, што радавы пасол Карахан вызван у Маскву і больш на сваю пасаду ня вернецца.

= Па вестках з **Парыжу**, гэтымі днямі распачнуцца йзноў гандлёвыя перагаворы паміж Францыяй і ССРР.

= У **Мароко** наступленьне французаў трывае далей. Цэлы рад паўстаўшых пляменьняў выразіў пакорнасьць францускай уладзе. Прадбачыцца хуткая ліквідацыя паўстаньня.

= У **Латвіі** памёр міністар загранічных спраў Мэйеровіч, які быў міністрам ад часу паўстаньня Дзяржавы. Сьмерць наступіла ад цяжкіх ран, атрыманых Мейеровічам у часе аўтамабільнае катастрофы.

# Палітычныя авантурысты.

(Пісьмо з Горадні).

Ужо некалькі разоў на Горадзенскім гарызонце паяўляўся нейкі „беларускі дзеяч" — Цяўлоўскі. Кожны раз зьяўляецца ён пад рознымі фірмамі: то, як старшыня нейкага „Варшаўскага Камітэту да беларускіх справаў", і закладае пры гэтым „акружныя камітэты", то стараецца стварыць нейкія аддзелы гэтых камітэтаў. Наагул, гэты пан стараецца за што-небудзь учапіцца, каб абаснавацца на Горадзенскім грунце. Праўда, зрабіць гэта яму ніяк не ўдаецца, бо ўсе мы яго тут добра ведаем і ведаем, трэба зазначыць, з вельмі кепскага боку. Але дзіўна неяк і, праўду кажучы, вельмі крыўдна тое, што гэты Цяўлоўскі цьвярдзіць што ён нібы-то працуе у кантакце з Час. Белар. Радай і зьяўляецца яе прадстаўніком.

Ведама, гэтыя яго заявы не знаходзяць ніякага водгуку ў нашага беларускага грамадзянства, бо усім добра ведама насколькі гэтаму пану можна верыць.

Але, ужо самае ўжываньне Цяўлоўскім фірмы Рады, дыскрэдытуе гэтую арганізацыю ў вачох менеі знаёмых з Радай грамадзян.

Зьяўляючыся адным з сымпатыкаў Час. Бел. Рады і яе ідэялёгіі, я вельмі абураны ўжываньнем яе імя брудным афэрыстам і цьвёрда веру, што гэткія „паны", як Цяўлоўскі, нічога супольнага з Радай ня маюць.

Аднак-жа, мне здаецца, ня шкодзіць, каб шырокія масы беларускага грамадзянства даведаліся аб тым, хто такі Цяўлоўскі і, дзеля гэтага, я хачу падзяліцца з чытачамі тымі матарʼяламі, якія маю аб ім і аб яго „дзейнасьці".

Ф. Цяўлоўскі паходзіць з-за кордону, дзе быў звычайным *матросам* (краса і гордасьць!), — асоба зусім няінтэлігэнтная. У Польшчу Цяўлоўскі прыехаў каля 1919 г. У восені 1924 г. Цяўлоўскі, па ініцыятыве Фёдарава утварыў у Варшаве гэтак званы „Цэнтральны Камітэт да справаў беларускіх", у якім ён быў старшынёю, а Фёдараў застаўся яго асабістым сэкрэтаром.

Пасьля арганізацыі гэтага „Камітэту", Цяўлоўскі прыехаў у Горадню, дзе стварыў „акружны" камітэт да беларускіх справаў. „Праца" акружнога камітэту пачалася вядомым усей Горадні скандалам у Кіеўскім готэлі, пасьля якога камітэт гэты хутка зьліквідаваўся. Каля Каляд 1924 г. Цяўлоўскі з Фёдаравым утварылі ў Горадні новы акружны камітэт, які істнаваў усяго адзін месяц і зьліквідаваўся на жаданьне паважных сябраў, абманам уцягнутых у гэты камітэт. У хуткім часе Цяўлоўскі ізноў зьяўляецца ў Горадні і творыць трэці такі-самы камітэт. У склад гэтага камітэту увайшлі ўжо... *агэнты Г. П. У.:* Балдоўскі, які перад гэтым тры разы езьдзіў у Савецкую Расею, Шымбарэвіч — вядомы горадзенскі камуністы і Якаўчук — былы літоўскі партызан. У часе свайго пабыту ў Горадні Цяўлоўскі праславіўся куцяжамі і кіданьнем грошаў. Грошы гэтыя, як кажуць, Цяўлоўскі атрымліваў у далярах, праз Фёдарава і Якаўчука, ад Савецкай місіі ў Варшаве. Пасьля арышту Фёдарава, Балдоўскага (старшыня акруж. камітэту), Якаўчука і іншых, як агэнтаў Г. П. У., зьліквідаваўся й гэты трэці і астатні камітэт Цяўлоўскага ў Горадні, а сам ён пераехаў у Баранавічы, дзе і распачаў „працу".

Наагул, у часе „працы" Цяўлоўскага ў Польшчы, заўважана, што ён вёў двайную гульню: усюды выстаўляў сябе полёнафілам, а ў гэты самы час меў цесную сувязь з агэнтамі Г. П. У.

Цяпер ужо высьветлена, што Балдоўскі, Фёдараў, Якаўчук і Марціняк (які з даручэньня Фёдарава і К-о выкрадываў з D. O. K. III дакумэнты для перадачы іх Саветам,) — зьяўляліся агэнтамі Г. П. У. (Чэ-ка). Усе яны знаходзяцца пад арыштам, а Шымбарэвіч уцёк у Савецкую Расею.

З гэтымі асобамі, аж да самага іх арышту, Цяўлоўскі ўвесь час падтрымліваў цесную сувязь, нават жыў разам з Фёдаравым.

Калі Балдоўскі, у пачатку гэтага

ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ.

# ДРЫГВА

## драматычны эскіз ў 6-ёх абразох.

(*Глядзі „Грам. Гол." № 83*).

**Манька** (*маўчыць і глядзіць на яго*).

**Міхалка** (*падыходзіць да яе*). Ну, чаго-ж ты маўчыш? Ня гневайся на мяне, мая ты сумненькая, але нічога не парадзіш — трэба; іншай рады няма. Як сама аб гэтым добра падумаеш, дык згодзішся са мной... Ну, толькі не рабі трагедыі... (*гладзіць яе па валасох*).

**Манька** (*хапаючы яго за руку*). Міхась! Ня кідай!.. Я буду для цябе паслухмянай, я табе ні ў чым перашкаджаць ня буду... рабі, што хочаш, толькі ня кідай!.. Залаценькі мой, ня кідай мяне! Што я без цябе рабіць буду?!.. як жыць буду?!.. Ня кідай!

**Міхалка.** Эх, дзетанька! Ня маеш ты розуму! Раней ці пазьней гэта павінна стацца... Няхай ужо лепш усё адразу скончыцца, — лягчэй на сэрцы будзе. Ты яшчэ маладая, вельмі маладая, ты яшчэ палюбіш, будзеш шчасьліва ..

**Манька.** О, не, Міхась! о, не! Нікагусенькі ніколі ўжо не палюблю!.. Ты мой адзіны, Міхась! Ня кідай! Ня трэба шлюбу, нічога ня трэба, толькі ня кідай!.. (*са сьлязмі закідвае яму рукі на шыю і пачынае плакаць на яго грудзёх*).

**Міхалка.** Ну, ціха, дзетанька! Ну супакойся...

**Манька** (*пасьля паўзы падымае галаву і глядзіць яму ў вочы*). Міхась! скажы ты мне праўду: ці ты калісь узапраўды мяне любіў? ці ты праўду казаў? Скажы!

**Міхалка.** Але... Ведама... Любіў... Я й цяпер цябе люблю...

**Манька.** А ці калісь, раней, з самага пачатку ты думаў аб тым, што нам трэба будзе разстацца?

**Міхалка.** Гм... Тады мне ўсё здавалася інакш, цяпер — гляджу на гэта цьвяроза.

**Манька** (*іншым тонам*). Брэшаш, Міхалка!.. Я цяпер шмат уцяміла таго, чаго раней не магла зразумець. Быццам мне вочы расплюшчыліся. Я цяпер ведаю, чаму ты заўсёды хаваўся, як быў са мной; я ведаю, чаму ты не хацеў хадзіць са мной па вуліцы; я ведаю, чаму твае прыяцелі ўсьмяхаліся, як нас разам бачылі, — ты мяне стыдаўся, я ведаю...

**Міхалка** (*хоча нешта сказаць*). Але! але! Не пярэч! Ты стыдаўся! Стыдаўся ты мяне, бо я простая дзяўчына з вёскі; бо я не патраплю гэтак разумна гаварыць, як нейкія паненкі - выкрутаскі; ты стыдаўся, бо я кэльнэрка, а калі стыдаўся, значыцца ня любіў мяне!.. А я, дурная, я верыла яму! (*хапаецца рукамі за галаву*). О, нашто я верыла яму?!

**Міхалка.** Чакай... супакойся...

**Манька.** Але! «Супакойся!»... Хочаш мяне супакоіць? Разбіў маё сэрца нягоднік, а цяпер: супакойся! А ці ты ведаеш,

году прыехаў з Расеі, яго арыштавалі і пасадзілі ў Слонімскі вастрог. Даведаўшыся аб гэтым, Цяўлоўскі і Фёдараў паручыліся за Балдоўскага і ён быў звольнены і адразу-ж пачаў „працаваць“ разам з гэтымі „панамі“.

Вось, браты, хто прэтэндуе на кіраўніцтва нашым нацыянальным рухам!

Асьцярагайцеся гэткіх „дзеячоў“!

Я. Г.

**Ад рэдакцыі.** Карэспандэнцыю гэту друкуем дзеля перасьцярогі нашага грамадзянства, якому пагражае небасьпека абаламучваньня як з боку комунізуючых дэструкцыйных элемэнтаў крайняе лявіцы (ў родзе „Незалежнай Хлопскай Партыі“, нядаўна створанай „Сялянска-Работніцкае Грамады“ і інш.), так і з боку авантурыстаў тыпу Цяўлоўскага і К-о.

Спроба неагляднага ўжываньня гэткіх „дзеячоў“ дзеля мэтаў палітычных у 1922 г., у часе выбараў у Сойм,—павінна была-б навучыць, чаго варта іх „праца“.

Прадбачацца новыя выбары ў Сойм і вось, на палітычным гарызонце ўсплываюць, розныя авантурысты.

Як бліны, пякуць яны нейкія „камітэты“ і ззываюць розныя „зьезды“.

Як запраўды выглядаюць гэтыя „зьезды“ і каму яны прыносяць карысьць (Рагулі і К-о?) відаць з надрукаванай ніжэй карэспандэнцыі аб адным з гэткіх зьездаў.

## Беларускі „зьезд“ у Баранавічах.

Як мы даведаліся ад саміх вучасьнікаў зьезду, інфармацыі, надрукаваныя ў віленскіх і варшаўскіх польскіх газэтах аб адбыўшымся у Барановічах 15-га гэтага жніўня беларускім зьездзе, зусім не адпавядаюць праўдзе.

На зьездзе было прысутных ня 350, а толькі каля 70 асобаў, пераважна мейсцовых баранавіцкіх жыхароў. Зьезд меў характар прыпадковага мітынгу, бо ня было нават мандатнай камісіі і дзеля гэтага на зьезд трапілі ўсе, хто хацеў.

Прысутнымі была вынесена пастанова запрасіць на зьезд пасла Рагулю, да якога была нават паслана асобная дэлегацыя. Зьявіўшыся на зьезд, Рагуля выступіў з сваей звычайнай дэмагогічнай прамовай. Паміж прысутнымі на зьездзе не знайшлося нікога, хто мог-бы выступіць з крытыкай дэмагогіі Рагулі; нават сам старшыня зьезду і прэзэс „камітету спраў беларускіх“ п. Цяўлоўскі „краснарэчыва“ маўчаў.

Прапазіцыя ініцыятараў зьезду аб выбарах сталага камітэту праваліласяся.

Замест гэтага, зьезд пастанавіў выбраць часовую камісію, якой даручыў склікаць ўсе-беларускі зьезд, і абавязкова запрасіць на яго прадстаўнікоў Часовае Беларускае Рады і Пасольскага Беларускага Клюбу. (!) Цікава адзначыць, што калі Цяўлоўскі запрапанаваў выбраць Сялянскую Раду, дык прысутныя запратэставалі проці гэтага, зазначаючы, што ў Вільні ўжо ёсьць Час. Бел. Рада.

У складзе выбранай зьездам камісіі няма ніводнага палітычнага, ці грамадзкога беларускага дзеяча, апрача ксяндза Татарыновіча, які ня быў прысутным на зьездзе і выбраны завочна.

Вось як запраўды выглядаў беларускі зьезд у Баранавічах, скліканы гэтак званым „Цэнтральным Камітэтам спраў беларускіх (?)“. Запраўды „зьезд“ гэты быў хаўтурамі палітычнай „працы“ п. Цяўлоўскага і створанага ім „камітэту спраў беларускіх“.

# У С. С. Р. Р.

### Барацьба з паўстанцамі.

Як мы ужо паведамлялі ў папярэдніх нумарох нашае газэты, у мэтах барацьбы з ўсе пашыраючымся паўстанчаскім рухам Г. П. У. пастанавіла распраўляцца „радыкальна“ з тымі, хто памагае паўстанцам: вёскі—паліць, жыхароў — разстрэліваць. Вось факты гэткіх распраў за адзін тыдзень:

— 30-га ліпня спалена вёска Колпча, Ігуменскага павету, і разстрэлена на вачох жыхараў 24 асобы.

— У Гомелі разстрэлена 27 работнікаў, абвінавачаных у падбурэньні да паўстаньня. Разстрэлівалі, па загаду мейсцовага Г. П. У., комсамольцы.

— 10 г. м. у Менск прывязьлі вялікую партыю сялян з Барысаўшчыны, абвінавачаных у дапамозе паўстанцам. Усіх будзе судзіць ваенна-рэвалюцыйны трыбунал.

— У Ігумені ваенны суд прыгаварыў 47 сялян да разстрэлу. Усіх па чарзе разстрэлілі мейсцовыя комсамольцы.

### Напады паўстанцаў.

У часе вайсковых манэўраў, у вёсцы Падгорцы закватэраваў 83 полк чырвонай пяхоты. Уначы з 19 на 20 г. м. на гэтую вёску зрабіў налёт атрад паўстанцаў. Перш-за-ўсё паўстанцы напалі на кватэры штабу, у якім захапілі 17.000 руб. золатам. Забіўшы 18 чырвоных жаўнераў паўстанцы уцяклі ў лясы.

Каля станцыі Капысь, на чугуначнай лініі Ворша-Магілёў, паўстанцы разабралі рэльсы. Прахадзіўшы пасьля гэтага вайсковы цягнік зваліўся пад адкос. У рэзультаце—8 забітых і 21 раненых.

### Забойства камісараў.

Забойствы камуністаў у Радавай Беларусі ня спыняюцца. Як ні стараецца камуністычная прэса замаўчаць аб гэтых сумных дзеля бальшавікоў выпадках, якія сьведчаць аб запраўдных адносінах народу да сучасных гаспадароў палажэньня, усё-ж-ткі ёй прыходзіцца ад-часу да-часу зьмяшчаць карэспандэнцыі аб гэтых фактах.

За апошні тыдзень савецкая прэса падала весткі аб забойстве у м. Старобіне, Слуцкага павету, вядомага камуніста Хаіма Огуса. У Рагачове 18 г. м. забіты з рэвальвэру камісар 33 палка. Вінавайцы ня знойдзены.

### Забіраюць апошнюю жывёлу.

Згодна з пастановай Ц. К. Беларускай Рэспублікі, у Гомельскім павеце пачалася рэквізіцыя жывёлы. Рэквізіцыя праводзіцца спэцыяльна высланымі з Менску камісіямі, якія атрымалі загад зрабіць яе ў сьпешным парадку, бо ўлада баіцца, каб сяляне не пахавалі ці не прадалі сваёй жывёлы. Чакаюць, што гэткія-ж рэквізіцыі будуць зроблены па ўсей Беларусі.

### Бандыты — адміністратары.

Пад гэткім загалоўкам бальшавіцкая „Крэсьцьянская Газэта“ № 88 падае вельмі характэрны выпадак з жыцьця вёскі Лугаўкі. Прадседатель сельсавета Стрэбкоў і ягоны сэкрэтар С. Гарбуноў зусім данялі сялян штрафамі і ўзяткамі. Штрафы бяруць за кожны глупы выпадак ад 3 да 50 рублёў. У часе „выпіўкі“ Стрэбкоў пасылае да сялян за парасятамі і курамі. Апрача ўсяго гэтага Стрэбкоў вельмі часта ўжывае арыгінальны спосаб „усьмірэньня“ непакорных яму сялян: ён садзіць кабет нанач у пуню, там іх б'е і пагражае перастраляць і спаліць.

Няма чаму тут дзівіцца — гэта-ж зусім нармальна! Калі бандыты гаспадаруюць у цэнтры, на высокіх пасадах народных камісараў, дык чаму-ж ім ня быць і ў нізох у якой небудзь там вёсцы Лугаўцы.

# Конь і сабака.

(З баек Крылова)

Служа здаўна ў гаспадара аднога  
С сабакай конь спрачацца сталі:  
— «Ня сталася-б, дальбог, зусім нічога,  
Каб са двара яго прагналі»,  
Сабака кажа: «Вось штука: вавіць або гарацъ!  
Пра здольнасьць іншую дагэтуль ня чуваць;  
Здаецца ўся каня тут сіла!  
Ці можа ён са мной зраўняцца?  
Павінна днём за стадам я ганяцца,  
Уначы — дабытак ўвесь абараняю  
І гэтак ні мінуты спакою я ня маю».  
— «Шмат праўды, трэ' прызнацца» --  
Конь кажа — «ў тым, што ты сказала,  
Аднак, ня трэба забывацца,  
Што — хоць я варты й мала —  
Каб ня было каму гарацъ-вазіць  
Ці было-б што табе і бараніць?»

Заслуг вялікіх за другімі  
Не прызнаем мы і ня бачым,  
Раўнячы іх са сваімі  
Даем суд — як аб каню-сабачы.

**Б. Друцкі.**

# ПА СЬВЕЦЕ.

### Друзы.

Друзы, якія змагаюцца цяпер з французамі за сваю незалежнасьць, па аднэй вэрсіі — астатак старажытнага семіцкага насяленьня Сірыі, па другой — аддзяліўшаяся каста сірыйскіх арабаў. Налічываецца іх 90-100,000 чалавек. Гавораць яны па арабску. Іх рэлігія, прынятая імі ў 1000 г. (па Нар. Хр.), прадстаўляе сабой мешаніну хрысьціянскіх, мусульманскіх і жыдоўскіх вераваньняў. Туркам трэба было 50 гадоў, каб захапіць гэтае гордае племя (у 1635 годзе), але і пасьля гэтага падбітыя друзы не адзін раз паўставалі проці турэцкага ўладаньня, — затое яны заўсёды дружылі є ангельцамі.

Жорсткая вайна з маранітамі, давёўшая ў 1860 годзе да крывавага пагрому хрысьціян у Дамаску, прымусіла Францыю паслаць у Сірыю войска, якое і заняло Ліван. Кіраваць Ліванам быў пасаджаны хрысьціянскі паша. Зневажаныя гэтым многія друзы высяліліся у Гауран. На аднэй часьці Гаўранскага ўзгор'я, на Джэбэль-эд-Друзэ (Горы Друзау), і пачалося цяперашняе паўстаньне.

---

што мо' ніводная з тваіх разумненькіх, «інталігентных» паненак ня будзе цябе любіць так, як я любіла! Я табе аддала усё сэрдца, усю душу, усе думкі свае! Я падавала гасьцям піва, а думала аб табе, я клалася спаць, я ўставала — і думала толькі аб табе, ды аб табе! Калі ты доўга ня прыходзіў, я мейсца сабе не знаходзіла, я думала, ці не здарылася нешта з табой... А ты вось які!

**Міхалка.** Супакойся... Яшчэ ня раз спаткаемся... Я прыеду... Гэта-ж не на заўсёды...

**Манька.** Але! «Не на заўсёды!» Ты хочаш мяне супакоіць... Не! Дарма! Я ўжо ведаю ўсю праўду і цяпер ужо мяне не ашукаеш... О, я цяпер усё ведаю, усё рузумею!.. Але, праўду ты казаў: няхай ужо ўсё адразу скончыцца, лягчэй на сэрцы будзе... Ах, і за што я цябе гэтак любіла?! О, як я цяпер ненавіджу цябе! О, чаму Грышка тады вось тут, замест у руку, ня ўсадзіў табе нож у сэрца! Ня мучылася-б я цяпер гэтак!..

**Міхалка** (*злосна*). А! прыпомніўся табе цяпер твой Грышка—твой першы каханак!

**Манька.** Брэшаш! Ен маім каханкам ніколі ня быў Ты добра ведаеш, што ты быў першы і... і апошні... А калі-б нават і быў, дык што? Ен можа болей варты за цябе ён пэўне не зрабіў-бы гэтак, як ты, бо ён запраўды любіў мяне.

**Міхалка.** Ты не раўнуй мяне з Грышкай!.. Ты!.. (*грозна падыходзіць да яе*).

**Манька.** А ты што лепшага? Ах, ты паніч подлы! Плюю я на тваё панства і на цябе! Тфу!

**Міхалка** (*хапае яе за плечы; хацеў ударыць, але ўстрымаўся і толькі адпіхае яе ад сябе*). Вон з маіх вачэй!..

**Манька** (*упаўшы на падлогу*) Ах, так!.. вось які ты!.. вось!.. (*падымаецца с падлогі і ідзе ў другі пакой, пазіраючы на Міхалку вачыма пакрыўджанай*).

**Сьцяпан** (*уваходзіць з другога пакою з чаркай і бутэлькай; за ім* **Галубоўскі** *і* **госьці**). Чаму-ж ты, Міхалка ўцёк ад нас? Хадзі піць. Заўтра паедзеш, пакінеш нас, а ня хочаш выпіць з прыяцелямі на разьвітаньне! (*Дае яму чарку*). На, маеш, і вып'ем за тое, каб мы заўсёды да самай сьмерці былі душой моладзы, як цяпер, каб ніколі не адракліся сваіх ідэялаў і заўсёды паважалі ўсё гордае, сьмелае, шляхотнае... Гурра!

**Госьці.** Гурра!!

**Гаспадыня** (*ўваходзіць*). Ціха, паночкі! Ня крычыце!.. Зачынена...

**Міхалка** (*ня выпіўшы сваей чаркі, кідае яе на падлогу і сядае на крэсьлі*).

**Усе.** Што гэта?.. Чаго?.. Ты п'яны?

**Сьцяпан** (*пасьля кароткае паўзы*). Ааа... Я ведаю, што гэта... (*да Міхася*). Што? Кепска на душы? га? Сьмейся з гэтага, усё пройдзе як сон. (*Да хлапцоу*). Давайце яму новую чарку! (*пяе*):

Эх, ня дождж гэта льецца,  
Льецца скрозь туман-імглу —  
Гэта хлопец горка плача  
І кляне долю сваю...

(*Працяг будзе*).

### Сумная будучыня Францыі.

Зьменшаньне ліку нараджэньняў у Францыі прыняла пагражаючыя разьмеры. Урадовая статыстыка выказывае, што калі працягам першае чверці 1923-га году нарадзілася 37,555 дзяцей, дык у 1924 годзе — толькі 27,694, пры 44,000 мільёнах жыхарства.

### Зьезд дэлегатаў Ку-Клукс-Клану.

У Вашынгтоне адбываецца цяпер зьезд нацыяналістычна-фашыстоўскае арганізацыі „Ку-Клукс-Клану", на які прыбыло больш 100,000 дэлегатаў. Галоўным пытаньнем парадку дня зьезду ёсьць барацьба з чужаземцамі, а перадусім з жыдоўскаю эміграцыяй і неграмі.

### Загінула камэта...

Знойдзеная нямецкім астраномам Тэмплем у 1869 г., і больш дакладна вывучаная амэрыканскім астраномам Ліфам у 1880 г., камэта „Тэмпль-Свіф" прыбліжалася да зямлі рэгулярна кожныя пяць з паловаю гадоў. Чаканая з чарговым візытам у гэтым годзе, камэта зусім не зьявілася.

## Жыцьцё провінцыі.

### Беларускі мітынг.

28 г. жніўня, у часе храмавога сьвята, у м. Ушы, Вялейскага пав., адбыўся мітынг, на які сабралося з ваколічных вёсак каля 2.000 народу. Мітынг пачаўся прамовай старшыні мейсцовага Сэкрэтар'яту Час. Бел. Рады, заслужонага і ўсімі паважанага старога беларускага дзеяча п. Т. Вярнікоўскага, які гаварыў аб сэктантстве і аб польска-беларускіх адносінах. У сваей прамове п. Вярнікоўскі ахарактэрызаваў дзеяльнасьць баптыстаў і мэтадыстаў, як вельмі шкадлівую для беларускага адраджэнчага руху і, наагул, для Дзяржавы і клікаў польскі ды беларускі народы да узаемнае згоды.

Пасьля Вярнікоўскага выступіў, спэцыяльна запрошаны на мітынг, старшыня Ч. Б. Рады п. А. Паўлюкевіч, які паінфармаваў прысутных аб дзеяльнасьці Ч. Б. Рады і аб прынятым праз Сойм праекце аграрнай рэформы. П. Паўлюкевіч перасьцярагаў сялян ад розных авантурыстаў і дэмагогаў, якія пхаюць беларускі народ на шлях рэвалюцыйны, і прапанаваў зрабіць усе *легальныя* высілкі, каб пры парцэляцыі зямля трапіла перадусім у рукі мейсцовых сялян, а не асаднікаў. Далей прамоўца парушыў справы школьныя і рэлігійныя і прызываў сялян, каб яны падтрымалі сваю родную беларускую школу і каб моцна трымаліся веры бацькоў (праваслаўныя—праваслаўнай, а каталікі—каталіцкай), бо мова і рэлігія зьяўляюцца аснаўнымі нацыянальнымі адзнакамі кожнага народу.

Справаздача старшыні Рады зрабіла вялікае ўражаньне на прысутных сялян, якія, даведаўшыся дзе старшыня застанавіўся, натоўпам павалілі да яго, складаючы розныя свае просьбы на імя Час. Бел. Рады.

## Тутэйшая хроніка.

= **Новыя Сэкратар'яты.** На апошнім сваім паседжаньні, Часовая Беларуская Рада пастанавіла зацьвердзіць склад Сэкрэтар'яту Рады у м. Казлоўшчыне, Слонімскага павету.

Апрача гэтага, Рада пастанавіла адчыніць Сэкратар'ят у м. Скрыбаве, Лідзкага павету.

= **Аб кандыдатах на вучыцельскія курсы ў Вільні.** Як мы ўжо паведамлялі, Старшыня Рады п. Паўлюкевіч, у часе сваей апошняй паездкі ў Варшаву, дабіўся ад Міністэрства Асьветы павялічэньня штатаў на Віленскіх Вучыцельскіх Курсах для кандыдатаў Рады з Навагрaдчыны.

16-га гэтага жніўня Віленскі Кураторыум атрымаў ад Міністэрства Асьветы загад прыняць 11 кандыдатаў Рады на курсы. У зьвязку з гэтым, Віленскі Кураторыум даручыў Радзе вызваць сваіх кандыдатаў у Вільню дзеля падпісаньня з імі адпаведнай умовы.

Усім кандыдатам Час. Бел. Рада выслала ўжо запрашэньні зьявіцца у Вільню на 8 верасьня. Усе кандыдаты павінны прывязьці з сабою пасьцель і бялізну, бо ў інтэрнаце дадуць толькі ложкі. Заняткі на курсах пачнуцца 14 гэтага верасьня.

= **Беларускі спэктакль у Вільні.** З ініцыятывы Час. Бел. Рады ў Вільні адбудзецца спэктакль беларускага аб'езднага тэатру Фр. Аляхновіча. Будзе пастаўлена п'еса „Пан Міністар" і канцэртны аддзел.

Пасьля спэктаклю ў Вільні тэатр выедзе на гастролі ў Навагрaдчыну.

= **Выезд Старшыні Рады.** Гэтымі днямі Старшыня Рады п. Паўлюкевіч выежджаў ў Навагрaдак. На конфэрэнцыі, адбытай з прадстаўнікамі мейсцовага беларускага грамадзянства, п. Старшыня, між іншым, парушыў справу пашырэньня працы Рады на Навагрaдчыне. У зьвязку з гэтым, Час. Бел. Рада пастанавіла адчыніць у Навагрaдчыне цэлы шэраг новых сэкрэтар'ятаў і распачаць там інтэнсыўную працу.

= **Пераход у каталіцтва.** Апошнімі днямі віленская прэса падала сэнсацыйную вестку аб тым, што віленскі архімандрыт Філіп Марозаў зрокся праваслаўнай веры і выехаў у Рым да папы.

= **Банкруцтва.** У Вільні збанкрутавала вядомая фірма „Express", якая прадавала абуваньне у расрочку пад вэксалі.

Уласьнік Фірмы Каменецкі ўцёк з Вільні няма ведама куды.

= **Рэестрацыя 18-ці гадовых мужчынаў.** Згодна з разпараджэньнем ад 23 траўня 1923 года, кожны год павінна рабіцца рэестрацыя 18-ці гадовых мужчынаў. У гэтым годзе рэестрацыя адбудзецца 15 верасьня. У мястох рэестрацыю будуць рабіць магістраты, а па гмінах—гмінныя ўрады. За незьяўленьне на рэестрацыю пагражае арышт да 6 тыдняў, ці штраф у 500 злотых.

= **Ад'езд куратора.** Віленскі куратар п. Гонсіороўскі 1 верасьня пакідае Вільню і выежджае на мейсца новага свайго ўрадаваньня ў м. Люблін.

= **Ад рэдакцыі.** У № 31 нашай газэты абмылкова была падана інфармацыя аб тым, што рэдактар газэты „Жыцьцё Беларуса" п. Туркевіч быў сябром выбарнага камітэту саюзу пралетарыяту гарадоў і вёсак па сьпіску № 5. Запраўды п. Туркевіч быў сябрам выбарнага камітэту і кандыдатам у Сойм ад 16-кі.

## Юрыдычныя парады.

**Грам. Вере М—ко.** Пры выхадзе замуж ў 1923 годзе прыданага не атрымала. Сямья складаецца з брата, сястры і дзядзькі з сямьёй. (Бацькі нашы памёрлі: бацька даўно, матка—5 гадоў таму). Дзядзька не аддзелены. Зямлі 7 дз. і будынкі. Якую часьць маемасьці і як я магу атрымаць?

*Адказ.* Маеце права на $^{1}/_{7}$ часьць тэй часьці, якая прычытаецца бацьку, г. зн. $^{1}/_{7}$ часьць палавіны 7 дз. ($3^{1}/_{2}$ дз.), усяго—$^{1}/_{2}$ дзес. і гэткую часьць будынкаў. Зьвярніцеся ў Міравы Суд, калі дабравольна не даюць, і прасіце прысудзіць Вам **законную долю** усей маемасьці.

**Грам. Міхалу К—чу.** Пазычыў у 22 г. 60 марак. Даўжнік памёр, засталіся насьледнікі. Распіскі няма, ёсьць толькі сьведка.

*Адказ.* Калі няма распіскі, дык доўг з насьледнікаў ня можна спаганяць. Сьведкамі даўгі наагул не даказываюцца.

**Грам. С. Хрышко.** *Запытаньне:* Ужо даўно пан захапіў 20 дзес. зямлі нашае вёскі і далучыў яе да свайго фальварку, які ў 1910 г. прадаў. Пакупшчыкі ня з нашае вёскі. За фальварак усе грошы яшчэ не заплочаны. Зямлю фальварка з 3-х бакоў абыймае зямля вёскі. На старых плянах зямля паказана за намі. Але пляны загінулі ў часе вайны. У 1924 годзе пакупшчыкі зрабілі новы плян. Ці можна адсудзіць зямлю, ці хаця дабіцца, каб яе нам прадалі? Ці можна дастаць стары плян? Ці мае сілу новы плян? Мы пратэставалі, калі каморнік абходзіў граніцы.

*Адказ:* Дзе вы былі раней? Як віцаць з вашага лісту, зямля захоплена яшчэ да 1910 г. Значыцца, калі дагэтуль ня было судовае справы аб ёй, дык правы на гэтую зямлю вёска страціла па даўнасьці (захоплена яна больш як 10 гадоў назад). Высудзіць нельга. Нельга таксама і „адкупіць" фальварак, калі прадаць ня хоча ўласьнік. Стары плян тут не паможа. Дастаць такі плян мо' і можна будзе, бо частка плянаў захавалася. Новы плян з 1924 г. — добры ўсё роўна ці за згодай вашай, ці не, ён зроблены. Адшуканьне і атрыманьне старога пляну будзе шмат каштаваць. Колькі — трудна азначыць, бо няведама, можа захаваліся ў Архіве толькі каморніцкія запісі, з якіх трэ' будзе рысаваць плян. Тады будзе гэта каштаваць дорага. Калі хочаце мець плян толькі дзеля спору аб гэтых 20 дз., дык няварта расходавацца, бо гэта ні да чаго.

**Грам. Рудко.** *Запытаньне:* 54 гады назад бацька пайшоў у прымакі на гаспадарку маткі і ўвесь часу ўладаў зямлёй, як гаспадар. Матка памёрла у 1915 г., бацька у 1924. Зямлю і гаспадарку тэстамэнтам бацька запісаў мне. Тэстамэнт зацьверджаны Акр. Судом. Цяпер брат, які ня жыў на гаспадарцы ужо 23 гады, падаў на мяне ў Міравы Суд. Хоча ён зламаць тэстамэнт. Як бараніцца?

*Адказ:* Калі тэстамэнт зацьверджаны Акр. Судом, дык зламаць яго Суд Міравы ня можа. Прадстаўце яго на Суд. Добра было-б, каб былі нейкія дакумэнты аб тым на бацьку. Але ўжо на падставе аднаго тэстамэнту вы выйграеце справу у Міравым Судзе.

**Грам. Р. Б. і П. Янкоўскім.** *Запытаньне:* 20 г. назад бацька падзяліў зямлю і гаспадарку паміж 4 сыноў. Адзін з іх прадаў братом сваю часьць (па г. зв. „запрадажнай" расьпісцы зробленай у гміне) і выехаў у Амэрыку, дзе і прапаў бяз весьці. Па запрадажнай прадавец мог атрымаць зямлю толькі пры звароце атрыманых ад пакупшчыкаў грошай удвая. Расьпіска загінула ў часе вайны, але ёсьць сьведкі. Жонка выехаўшага ў Амэрыку брата родам з Літвы Ковенскай; жыла там разам з дзяцьмі ў сваіх родных. Цяпер прыехала сюды з дзяцьмі і хоча адабраць тую зямлю, якую яе муж прадаў. 1) Ці маюць дзеці прадаўца права адабраць зямлю тую і 2), ці могуць адабраць яе задарма, ці як?

*Адказ:* Як сам брат, так і яго жонка і дзеці ўтрацілі (а вы набылі) права на зямлю па даўнасьці. Адабраць гэту зямлю ніхто ад вас ня можа. Аднак, калі на вас аб гэтай зямлі пададуць у суд, да *першага* паседжаньня суда зьвярніцеся да адваката, каб падаць *стрэчную позву* аб прызнаньні за вамі права на зямлю па даўнасьці.

## АБВЕСТКА.

**Дырэкцыя Клецкай Беларускай Гімназіі (тыпу прыродна-матэмат.) гэтым паведамляе, што:**

1) Уступныя экзамены ў клясы — прыгатаваўчую, I, II, III, IV, V і VI адбудуцца з 1-га па 8-ое верасьня; заняткі ў гімназіі пачнуцца 9-га верасьня.

2) Заявы аб кандыдатах падаюцца іх бацькамі, або апякунамі. Да заяў трэба далучыць:

а) Мэтрыку аб нараджэньні; б) дакумэнт аб адукацыі; в) пасьведчаньне доктара аб прышчэпе воспы; г) фатаграфічную картку; д) калі кандыдат мае больш 14 гадоў і апошнія 6 м-цаў ні ў якой школе ня вучыўся, то й пасьведчаньне маральнасьці ад гміны або сьвяшчэньніка, і е) уступную плату: у клясы—прыгатаваўчую, I і II — 5 зл., у III і IV кл. 8 зл., у V і VI — 10 зл.

3) Вучні „паўшэхных" школаў, з польскай выкладовай мовай прыймаюцца ў гімназію пасьля экзаменаў на беларускай мове ў гэтакім парадку: скончыўшыя 3 аддзелы — у I кл., 4 аддзелы — у II кл., 5 аддз. — у III кл., 6 аддз.—у IV кл., скончыўшыя 7 аддз. могуць быць прыняты у V кл. толькі па экзаменах з усіх прадметаў за курс IV клясы.

5) Плата за навуку за першае паўгодзьдзе назначана: у прыгатаваўчай клясе—30 зл., у I, II кл. — 60 зл., у III кл. — 75 зл., у IV кл. — 90 зл. і ў V і VI кл. — 100 зл.

6) Заявы можна падаваць поштай па адрэсу: Kleck, pow. Nieświski, gimnazjum Białoruskie.

**ДЫРЭКЦЫЯ.**

## АБВЕСТКА.

**Навагрaдзкая 8-х клясовая прыватная коэдукацыйная Гімназія.**

Пачатак уступных экзаменаў ў I, II, III, IV, V, VI, VII клясы

**1-га верасьня.**

Да заявы трэба далучыць: а) мэтрыку, б) пасьведчаньне доктара аб прышчэпе воспы, в) дакумэнты аб папярэдняй адукацыі.

Жадаючыя паступіць у VIII клясу, або перавясьціся з іншай Гімназіі ў гэтую клясу, павінны зьвярнуцца з просьбаю:

**„Do Kuratorjum Okręgu Szkolnego Białostockiego w Białymstoku"**, аб дазволе, прылучыўшы да паданьня тыя-ж, вышэй абазначаныя, дакумэнты.

**Заняткі ў Гімназіі пачнуцца 1 верасьня.** **Дырэкцыя.**



Рэдактар-Выдавец Язэп Салавей

Друкарня „Lux", вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф. № 203.